# ВІЗІТ ДОБРЫХ СЯБРОЎ

Мінулы тыдзень прайшоў у Польшчы пад знакам сяброўскага візіта партыйна-ўрадавай дэлегацыі Венгерскай Народнай Рэспублікі пад кіраўніцтвам Янаша Кадара. Гэта ўжо не першае спатканне кіраўнікоў нашых дзяржаў. Сяброўства нашых краін датуецца стагоддзямі і яны мелі падобны лёс.

Сацыялістычны лад, пануючы ў абедзвюх нашых краінах, уносіць у традыцыйнае сяброўства найбольш істотныя элементы — шырокае супрацоўніцтва ў галіне палітыкі, гаспадаркі і культуры. Цяперашнія размовы яшчэ раз паказалі, што паміж Польшчай і Венгрыяй існуе абсалютная згода ў поглядах на найважнейшыя міжнародныя праблемы. Польшча і Венгрыя лічаць галоўнай мэтай нашага часу захаванне міру і разам накіроўваюць сваю ініцыятыву супраць імкненняў распаліць тэрмаядзерную вайну. Напрыклад, абедзве краіны згодна падтрымалі Маскоўскі дагавор аб частковай забароне тэрмаядзерных доследаў і цяпер падтрымліваюць савецкую прапанову аб заключэнні пакту аб ненападзенні паміж дзяржавамі Варшаўскага дагавору і Паўночна-Атлантычным пактам.

Аднолькавую пазіцыю займаюць абедзве краіны ў справе стварэння ў Еўропе бязатамнай зоны, падпісання мірнага дагавору з дзвюма нямецкімі краінамі, вырашэння праблемы заходняга Берліна і канчатковага прызнання існуючых ў Еўропе граніц.

З кожным годам усё больш паспяхова развіваецца паміж нашымі краінамі гаспадарчае супрацоўніцтва. За апошнія пяць год гандлёвы тавараабмен павялічыўся больш як у два разы. Асабліва значэнне мае ўзаемны абмен машынамі і прамысловым абсталяваннем (павялічыўся за гэты час амаль у 4 разы). Гэта якраз вынік супрацоўніцтва ў рамках Савета Узаемнай Гаспадарчай дапамогі. Ад 1958 года існуе пастаянная польска-венгерская камісія па гаспадарчаму супрацоўніцтву, якая на днях мела ў Будапешце свае чарговае пасяджэнне. На гэтым пасяджэнні абмяркоўвалася, між іншым, справа неабходнасці больш дакладнай каардынацыі пяцігадовых планаў.

Гэтая тэма была таксама прадметам размовы і ў Варшаве паміж кіраўнікамі нашых дзяржаў. Значыць, можна чакаць далейшага развіцця суадносін паміж Польшчай і Венгрыяй.

Цяпер Венгрыя (як і Польшча) заканчвае чацвёрты год сваёй пяцігодкі. Нашы сябры дабіліся вышэйшага за сярэдні тэмпу развіцця ў галіне тэлекамунікацыйнай прамысловасці, дакладнай апаратуры, станкабудаўніцтве і ў хіміі (пластмасы, сінтэтычнае валакно). Для краіны, якая не мае вялікай сыравіннай базы (апрача баксітаў), пераапрацоўчая прамысловасць можа стварыць шанцы для павелічэння экспарту. Зрэшты, у гэтай галіне венгры ўжо сёння маюць значна большыя дасягненні, чым мы. Значыць, могуць для нас быць добрым прыкладам.

Візіт партыйна - ўрадавай дэлегацыі Венгрыі, хоць вельмі ўрачысты, аднак мае рабочы характар. Ён будзе садзейнічаць развіццю абедзвюх краін, звязаных адзінай ідэяй будаўніцтва сацыялізма.

УЛ. ЛАЗІНСКІ

# ACTA BALTICO-SLAVICA

Гэта орган Беластоцкага навуковага таварыства, якога першы нумар сёлета з'явіўся ў друку. Прысвячаецца ён палітычным, грамадскім і культурным суадносінам у мінулым і ў сучаснасці паміж балтыйскімі народамі (старажытнымі прусамі, літоўцамі і латышамі) і славянскімі народамі (палякамі, беларусамі і рускімі). Том змяшчае матэрыялы «І Канферэнцыі гістарычных навук у Беластоку», якая адбылася ў днях 2—3 чэрвеня 1961 года ў Палацы Браніцкіх — сядзібе Медыцынскай акадэміі. Гэта было вельмі каштоўнае мерапрыемства, згуртаваўшае археолагаў, этнографаў, антрапалогаў, гісторыкаў, мовазнаўцаў і географаў. Усе яны ў той ці іншай ступені цікавяцца паўночна - ўсходнімі землямі Польшчы, вывучаюць іх мінулае і сучаснасць у залежнасці ад сваёй спецыяльнасці.

І том Acta Baltico-Slavica друкуе працы 18 аўтараў. Вялікая тут разнастайнасць тэм і шырыня ахопу праблем. Е. Антаневіч удзяляе ўвагу пытанню археалагічных доследаў, Р. Кярсноўскі піша аб грошах у раннім сярэдневякоўі на паўночна-ўсходніх землях Польшчы, Ст. Калябінскі абмяркоўвае развіццё рабочага руху ў 1870—1900 гг., а Ул. Дыноўскі займаецца некаторымі пытаннямі этнаграфічных даследаў на Падляшшы. Частка прац закранае беларускую тэматыку. Належыць да іх публікацыя А. Абрэмбскай-Яблонскай, якая звяртае ўвагу на неабходнасць больш грунтоўнага даследвання беларускіх гаворак на тэрыторыі нашага ваяводства. Аўтар прадстаўляе нам дагэтуляшнія вынікі прац польскіх і беларускіх вучоных у гэтым кірунку і адзначае вялікае значэнне такіх доследаў у наш час. У публікацыі А. Абрэмбскай-Яблонскай шмат цікавага матэрыялу, які датычыць першых пасляваенных дасягненняў у вывучэнні беларускіх гаворак Беласточчыны. Як вядома, праводзяцца яны зараз Працоўняй беларускай філалогіі Закладу славяназнаўства ПАН. У публікацыі Т. Зданцэвіча аб літоўскіх і ўсходнеславянскіх уплывах на польскія гаворкі пад Сейнамі знаходзім матэрыял, абмяркоўваючы ўплыў беларускай мовы на гэтыя гаворкі. Вельмі каштоўнай з'яўляецца праца Ул. Курашкевіча аб беларускіх і украінскіх тэндэнцыях у гаворках у раёне Белавежскай пушчы.

Амаль усе аўтары згодна адзначаюць, што трэба яшчэ палажыць шмат намаганняў, каб загоўніць «белыя плямы» ў нашых ведах аб Беласточчыне, якая дагэтуль знаходзілася ў многіх выпадках на водшыбе навуковых зацікаўленняў. Матэрыялы, што змешчаны ў І томе Acta Baltico-Slavica смела рухаюць наперад гэтую справу.

а.с.

# Новы рэцытатарскі конкурс

ГП БГКТ і Кураторыя ў Беластоку аб'явілі новы рэцытатарскі конкурс для вучняў класаў V—XI. Усе класы V—XI павінны падрыхтаваць да рэцытацыі творы (або ўрыўкі) беларускіх паэтаў і празаікаў (паводле свайго выбару). Да 28 лістапада г. г. трэба правесці элімінацыі ў класах і паасобных школах. 13 снежня г. г. павятовыя аддзелы БГКТ з аддзеламі асветы правядуць элімінацыі павятовыя. 20 снежня г. г. у Беластоку адбудуцца цэнтральныя элімінацыі.

На лаўрэатаў цэнтральных элімінацый чакаюць каштоўныя ўзнагароды, між іншым: фотаапараты, гадзіннікі, аўтаручкі, гармонікі, кніжкі і інш. Больш дакладныя ўмовы конкурсу пададзены ў асобным пісьме Кураторыі і ГП БГКТ, якое накіравана ў паасобныя школы.

# ВЫСТАЎКА ДВАЦЦАЦІГОДДЗЯ

У рамах святкавання XX-годдзя ПНР у першай палове наступнага года будзе сарганізавана вялікая краёвая выстаўка мастацтва, графікі і скульптуры. На ёй будуць экспанаваны найлепшыя выбраныя працы з усіх ваяводстваў. А каб гэтыя найлепшыя працы выылавіць, трэба ўбачыць найперш, што маем у сябе. Таму і наша ваяводская (элімінацыйная) выстаўка ў музеі ў Ратушы будзе адкрыта ў палове лістапада г.г. На ёй будуць зусім новыя, яшчэ нідзе не экспанаваныя працы нашых беластоцкіх мастакоў. Паказваць яны павінны ў свой мастацкі спосаб заангажаванне мастака ў Народнае Дваццацігоддзе. Удзел прымуць усе нашы мастакі.

Патранат над выстаўкай мае спецыяльна пакліканы камітэт на чале са Стэфанам Жмійка — старшынёй Прэзідыум ВРН у Беластоку. (вл)

# НОВЫЯ ГЕРОІ КОСМАСУ



Пілот касмічнага карабля «Васход» інжынер Уладзімір Міхайлавіч Камароў.



Навуковы работнік касманаўт Канстанцін Пятровіч Феакцістаў.



Доктар касманаўт Барыс Барысавіч Ягораў.

# СТОЙКІ РЭВАЛЮЦЫЯНЕР

**16 верасня г.г. «Czerwony Sztandar» — орган Цэнтральнага камітэта Камуністычнай партыі Літвы (выходзіць у Вільні на польскай мове) апублікаваў артыкул пра Браніслава Тарашкевіча. Маючы на ўвазе вялікую цікавасць нашых чытачоў да славутага правадыра Грамады, змяшчаем поўнасцю пераклад гэтага артыкула.**

★

Толькі дзякуючы выдатным здольнасцям Браніслаў Тарашкевіч, патомак прыгонных сялян з вёскі Чарнулішкі, Міцкунскай гміны, Віленскай губерні патрапіў здабыць адукацыю ва ўмовах царызму. Пасля сканчэння віленскай гімназіі Тарашкевіч паступіў у 1911 годзе ў Пецярбургскі універсітэт, а ў маі 1916 года з надзвычай добрым вынікам закончыў курс лекцый і ў хуткім часе стаў кандыдатам філалагічных навук.

У 1918 годзе Тарашкевіч выдаў першую «Беларускую граматыку для школ», потым стаў дырэктарам адной з віленскіх гімназій. У гэты перыяд яго палітычныя погляды былі няўстойлівымі. Бязмерна адданы народу не прысвоіў сабе яшчэ марксісцкіх перакананняў, не знайшоў адпаведнай дарогі і трапіў пад уплыў буржуазна-нацыяналістычнай ідэалогіі.

Тым часам з кожным годам рабіліся ўсё горшымі ўмовы людзей працы Віленшчыны і ў Заходняй Беларусі, якія знайшліся пад прыгнётам польскіх памешчыкаў і капіталістаў. Большасць сялян мела зямлі «замнога, каб памерці і замала, каб жыць». На вёсцы перапляталіся капіталістычныя і феадальныя метады прыгнёту. Людзі працы прыгнечаных нацыянальнасцей — літоўцы, беларусы, украінцы, яўрэі — падвяргаліся не толькі класаваму прыгнёту, але таксама і нацыянальнаму. Голад, галеча, палітычнае бяспраўе, крывавы тэрор — усё гэта выклікала глыбокае абурэнне народных мас, пхала да барацьбы за грамадскае і нацыянальнае вызваленне пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі.

Выбраны дэпутатам на сейм Б. Тарашкевіч, так як і іншыя прагрэсіўныя прадстаўнікі інтэлігенцыі, не мог не адчуць таго, што народ настроены рэвалюцыйна, што не верыць ў дабрачыннасць пануючых класаў. Паступова ў свядомасці Тарашкевіча дасяваў пералом.

Толькі дзякуючы рэвалюцыйнай барацьбе рабочых і сялян у саюзе з рабочымі масамі ўсёй Польшчы можна дабіцца вольнага і шчаслівага жыцця — такое было перакананне, да якога дайшоў Тарашкевіч.

Пасля ўступлення ў рады Камуністычнай партыі Б. Тарашкевіч прыняў кіраўніцтва рухам беларускай сялянска-рабочай Грамады.

Грамада ўтварылася на аснове завастрэння класавых супярэчнасцей і ўзмацнення вызваленчай барацьбы працоўных Віленшчыны і Заходняй Беларусі. Дзейнічаючы пад кіраўніцтвам КПЗБ бараніла яна права прыгнечаных народаў да самавызначэння, змагалася за звяржэнне ўлады буржуазіі і памешчыкаў, за саюз працоўных Заходняй Беларусі з БССР, патрабавала бясплатнага пераказання зямлі працуючым сялянам. Бараніла правоў і дэмакратычных свабод. Нягледзячы на тое, што ў маі 1926 года пасля фашысцкага перавароту Пілсудскага ўзмацніўся тэрор, рух Грамады прыняў большы размах. Да 1927 года ў сваіх радах налічвала яна звыш 100 тысяч людзей.

Тарашкевіч у шматлікіх вёсках і гарадах выступаў з прамовамі на мітынгах і сходах, прымаў удзел у антыўрадавых дэманстрацыях. Выступаючы ў абароне інтэрнацыяналістычнай салідарнасці працоўных Б. Тарашкевіч заваяваў вялікую папулярнасць сярод мас.

У студзені 1927 года ўрад Пілсудскага арыштаваў звыш тысячу актывістаў Грамады, рэвалюцыйных прафесіянальных саюзаў, членаў Таварыства Беларускай Школы, незалежнай сялянскай партыі, а таксама іншых антыфашысцкіх арганізацый. У судах пачаліся масавыя працэсы. Найбольш вядомым быў працэс 56-ці кіраўнікоў Грамады, сярод якіх знаходзіўся таксама Браніслаў Тарашкевіч. Аб велічыні гэтай справы, якую разглядаў Віленскі Акруговы Суд ад 23 лютага да 23 мая 1928 года, сведчыць не толькі лічба абвінавачаных, але таксама пакліканне 660 сведкаў, 8 судовых экспертаў. У зале знаходзіліся шматлікія прадстаўнікі польскага і замежнага друку, у тым карэспандэнты ТАСС, «Ізвестій», «Звязды». Пад кіраўніцтвам Віленскага Акруговага Камітэта КПЗБ у Вільні і яго аколіцах праводзіліся мітынгі і дэманстрацыі пратэсту. Пасля прыёму кіраўніцтва барацьбой абвінавачаных Б. Тарашкевіч мужна і ўмела дэмаскаваў судовы фарс, арганізаваў

